© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Андрэй Асадчы

# У ідэалагічным працэсе: неўтаймаваная плынь фактаў ды ідэяў

Слука, О. Г. (2010). *Идеологические процессы в Беларуси.* Минск: РИВШ. 220 с.

Кніга доктара гістарычных навук прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Алега Слукі накіраваная на аналіз ідэалагічных працэсаў у сучаснай Беларусі. Гэтая праца заяўленая як навуковае выданне і рэкамендаваная рэдакцыйна-выдавецкім саветам Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы. З анатацыі да кнігі мы можам даведацца, што праца *«адрасаваная студэнтам і выкладчыкам універсітэтаў, слухачам павышэння кваліфікацыі ў сістэме Міністэрства адукацыі, практычным работнікам ідэалагічнай "вертыкалі" Рэспублікі Беларусь, усім, хто вывучае працэсы фарміравання, развіцця і рэалізацыі інавацыйнай ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці»* (с. 2). Тэма, заяўленая аўтарам, сапраўды мае навуковае значэнне. Але рэалізаваць даволі амбітную задачу аналізу ідэалагічных працэсаў у Беларусі ў Алега Слукі, як падаецца, не атрымалася, пра што сведчыць змест самой кнігі.

**Уводзіны** кнігі выглядаюць даволі тэндэнцыйна. Слука адзначае супярэчлівасць і агрэсіўнасць сучаснага свету, кажа пра існаванне сусветных цэнтраў сілы, абвінавачвае ЗША і Вялікую Брытанію ў міжнародным валюнтарызме, называючы аперацыю саюзнікаў у Іраку міжнародным фарсам. У кантэксце такой «складанай» міжнароднай сітуацыі «*толькі ўзмацненне асобных краінаў і народаў ды ўсіх іх разам можа вывесці чалавецтва на новы ўзровень гуманістычнага існавання...*» (с. 5). Важная роля ў такім «узмацненні» ды пераходзе да «новага ўзроўню» надаецца аўтарам ідэалогіі, сутнасць якой палягае ў канструяванні гуманістычнай парадыгмы.

Сваю кнігу «Ідэалагічныя працэсы ў Беларусі» Слука ўяўляе «*арганічным працягам навуковага пошуку эфектыўных формаў і метадаў рэалізацыі ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці як сістэмы ідэяў арганізацыі грамадства і кіравання дзяржаваю*»

(с. 5). Аўтар спрабуе даць ацэнку стану ідэалогіі ў Беларусі, адзначае запаволенне сістэмнай распрацоўкі ідэалогіі ў дзяржаве за апошнія гады: «*сучасная ідэалогія недастаткова дзейсна "ідзе ў масы"*» (с. 7). Ён таксама звяртае ўвагу на разрыў паміж тэарэтычным узроўнем ідэалогіі ды яе засваеннем у грамадстве.

Звяртаючыся да сваёй працы, Слука адзначае, што мэта кнігі – паспрабаваць «*вывучыць развіццё ідэалагічных працэсаў у сучаснай Беларусі, паказаць ступень іх уплыву на самыя важныя сферы жыццядзейнасці грамадства і дзяржавы*» (с. 8). У звязку з гэтым аўтар ставіць задачу прааналізаваць палітычныя і маральна-этычныя фактары грамадства, спрабуе раскрыць паняткі свабоды, незалежнасці і справядлівасці, якія называе асноўнымі індыкатарамі дэмакратыі ды задавальнення інтарэсаў беларускага грамадства. Ён спрабуе высвятліць спецыфіку фармавання грамадзянскай супольнасці і патлумачыць неабходнасць утварэння новай культурнай прасторы. Слука пазначае, што ў сваёй кнізе ён звяртаецца да працаў «*вядомых айчынных навукоўцаў*» (с. 8), сярод якіх Яўген Бабосаў, Рыгор Васілевіч, Леанід Землякоў ды інш.

Уводзіны кнігі пакідаюць больш пытанняў, чым адказаў. Якім жа чынам аналізаваліся ідэалагічныя працэсы ў Беларусі? Якія храналагічныя межы гэтай працы? Якую метадалогію выкарыстоўваў аўтар? Таксама не зусім зразумела, хто з названых «навукоўцаў» даследаваў гэтую праблематыку і ў якіх тэкстах можна знайсці напрацоўкі? Якія пытанні ў гэтай праблематыцы выступаюць найбольш актуальнымі на дадзены момант?

Да гістарыяграфіі праблемы аўтар не звяртаецца наогул (акрамя згадкі вышэй пазначаных прозвішчаў), адзначыўшы толькі, «*што да даследавання непасрэдна ідэалагічных працэсаў у Беларусі названыя ды іншыя аўтары не звярталіся*» (с. 9). Выглядае, што праца Слукі мае наватарскі характар. У такім выпадку распрацоўванне і аргументацыя асноўных крытэраў і прынцыпаў метадалогіі даследавання, а таксама разгляд замежнай гістарыяграфіі пры адсутнасці айчынных напрацовак падаюцца абавязковымі для адэкватнай ацэнкі тых ідэалагічных працэсаў, якія адбываюцца ў сучаснай Беларусі. Гэтага ў рэцэнзаванай працы няма.

**Першы раздзел** кнігі прысвечаны агляду геапалітычнага кантэксту беларускай ідэалогіі. Аўтар крытычна ставіцца да працэсаў, якія адбываюцца на міжнародным узроўні, кажа пра шматлікія стратэгічныя пралікі ў міжнародным развіцці, звяртае ўвагу на пашырэнне лакальных войнаў, называючы іх захопніцкімі войнамі «*ў імя свабоды, дэмакратыі ды незалежнасці*» (с. 12). Адмоўным працэсам называецца замацаванне ў сучасным свеце ідэалогіі глабалізацыі, якая прывяла да распаду СССР і ўсёй сацыялістычнай сістэмы, а таксам паступовага перадзелу сфераў уплыву ў свеце. Крытыку Расіі ды Беларусі з боку Захаду Слука называе «*канфліктным "клікунствам" марыянеткавых дзяржаваў і ўрадаў, якія сусветная рэакцыя выкарыстоўвае для брахання на слана*» (с. 12). Крытыкуючы замежны курс Злучаных Штатаў,

аўтар абвінавачвае ЗША ў прымяненні «*сярэднявечнай палітыкі*» (с. 13), вядзенні інфармацыйных войнаў для перадзелу сфераў уплыву ў свеце.

Для Слукі ідэалогія глабалізацыі – гэта велізарная небяспека. Універсалізм бачыцца яму як пагроза пераразмеркавання рэсурсаў у бок «залатога мільярда». Крытыкуючы міграцыю інтэлектуалаў у эканамічныя цэнтры свету, аўтар не скупіцца ў выказваннях, называючы гэты працэс «*неакаланіяльным закабаленнем сусветнай супольнасці*» (с. 14) або «*зладзейскай ідэалагічнай інтэграцыяй*» (с. 14). Ён выкрывае заходніх палітолагаў у распрацоўванні «*капітуляцыйнай ідэі*» (с. 14), згодна з якой бедныя краіны ніколі не будуць багатымі. Адказам на такую міжнародную сітуацыю, на думку аўтара, мае быць распрацоўка і пошук «*аўтаномнага шляху развіцця*» (с. 15). Адною з перашкодаў на шляху такой «распрацоўкі» стаіць Сусветны банк, які Слука называе планетарным ідэолагам і крытыкуе за ідэю «мінімальнай дзяржавы». Ідэі рэфарматарства і змяншэння ролі дзяржавы на постсавецкай прасторы аўтар успрымае як «*прымітыўныя тэорыі*» (с. 17), а ідэалогія глабалізацыі ўяўляецца «*небяспекаю анархічнага руйнавання савецкай сістэмы*» (с. 18), таму неабходна выпрацаваць уласную стратэгію развіцця.

Робячы невялікі экскурс у станаўленне і развіццё дзяржаўнай ідэалогіі ў Беларусі, аўтар заяўляе, што ў краіне склалася «*своеасаблівая навуковая сфера па выпрацоўцы, вывучэнні і ўзбагачэнні новымі ідэямі і ведамі ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці*» (с. 19). Выказванні пра ідэалогію ў Беларусі лепш пакінуць без каментараў: «*назапашаны арыгінальны навуковы пласт*» (с. 20), «*інавацыйныя ідэі*» (с. 20), «*навуковае прагназаванне ідэалогіі*» (с. 20) і г. д. «Навуковая» ідэалогія выступае «*аб'ектыўным паскаральнікам працэсу сацыяльна-эканамічнага развіцця*» (с. 20). Усё далейшае «бурнае» эканамічнае развіццё Беларусі, на думку аўтара, будзе вызначацца «*паглыбленнем навукова-тэарэтычнага падмурку ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці*» (с. 21).

Слука засяроджвае ўвагу на працэсе станаўлення дэмакратыі ў Беларусі. Значнымі фактарамі фармавання беларускай нацыі – «*вырастання*» *беларускага народу з агульнарускай славянскай сям'і*» (с. 23) – аўтар называе гуманістычны пачатак і дэмакратычнае волевыяўленне. Гэта дае яму падставы казаць пра наяўнасць пэўнага досведу дэмакратыі ў беларусаў, рэальнае ўвасабленне якой аказалася магчымым толькі ва ўмовах існавання Рэспублікі Беларусь. Свабоду Слука акрэслівае як найвышэйшую субстанцыю існавання чалавека і грамадства. Асноўным крытэрам свабоды называецца эканамічная эфектыўнасць дзяржавы і грамадства, пры гэтым адзначаецца немагчымасць існавання эфектыўнай эканомікі без моцнай дзяржавы.

Аўтар закранае тэму інтэграцыйных працэсаў, якія адбываюцца ў свеце. Сучасную мадэль светабудовы ён называе імперыяй, адзначаючы, што «*імперыя змагаецца за непадзельнае валоданне светам*» (с. 26). Гэтая барацьба выклікае неабходнасць

адэкватнага адказу, на што і накіраваная дзейнасць СНД. Пры гэтым падаецца, што ліберальная мадэль эканомікі – гэта сусветнае зло. Ліберальная эканоміка ставіцца ў адзін шэраг з распустай і «воровским переделом». Аўтар адзначае, што спроба ўкараніць ліберальную эканоміку прывяла некаторыя постсавецкія краіны да раздачы/разбазарвання народнай маёмасці, закрыла магчымасці для развіцця сацыяльна-эканамічных праграмаў і прывяла да шматлікіх канфліктаў.

Першы раздзел кнігі дае магчымасць пазнаёміцца з каштоўнаснымі арыенцірамі прафесара БДУ. Слука выступае з выразна антыглабалісцкіх пазіцыяў і цалкам адмаўляе вартасць ліберальнай эканомікі. І першае, і другое падаецца яму сусветным злом – выклікам міжнароднай супольнасці. Выклік патрабуе адказу – выпрацоўкі свайго ўласнага шляху. «Навуковым» выпрацоўваннем такога шляху і займаецца ідэалогія беларускай дзяржаўнасці, асновай якой выступаюць сацыяльна арыентаваная эканоміка і моцная дзяржава.

Назва **другога раздзелу** – «Метадалогія фармавання сучаснай культурнай прасторы» – не адпавядае зместу і ўводзіць чытача ў зман. Пра метадалогію даследавання ў раздзеле ніякай гаворкі не ідзе. У гэтай частцы кнігі аўтар спрабуе абгрунтаваць неабходнасць фармавання новай культурнай прасторы ў Беларусі, што неабходна для далейшага развіцця краіны.

Слука фармулюе паняцце культурная прастора – «*філасофскае абгрунтаванне развіцця рэальнай рэчаіснасці, заснаванае на закамернасцях функцыянавання постіндустрыяльнага грамадства*» (с. 37). На думку аўтара, новая культурная прастора павінна сфармаваць свабоднага чалавека: «*свабодны чалавек у сацыяльным грамадстве*» (с. 37). Спробы бліснуць ведамі часам прыводзяць аўтара да словаблудства: «*Найважнейшым складнікам метадалогіі сучаснага культурнага грамадства ёсць першарадны фактар, які ўплывае на ўстаноўкі паводзінаў чалавека ў сучасным і будучым*» (с. 37). Так і хочацца запытаць: гэта што і пра што?

Адзначаючы, што «*экалагічная бяспека чалавецтва ў галіне тэорыі развіваецца амаль паўстагоддзя*» (с. 38) (чытач сам павінен зразумець, пра якую тэорыю ідзе гаворка), аўтар пераходзіць да агляду праблемы экалогіі ў сучасным свеце. Слука звяртае ўвагу на несправядлівасць размеркавання вытворчых рэсурсаў, кажа пра аднабокасць «*эканамічнай ідэалогіі глабалізацыі*» (с. 41). Менавіта эканамічныя прычыны, на думку аўтара, перашкаджаюць развязанню праблемы экалагічнай бяспекі.

Ён звяртае ўвагу на важнасць экалагічнага фактару ў фармаванні новай культурнай прасторы ў Беларусі, кажа пра неабходнасць палепшыць умовы жыцця гарадскога і сельскага насельніцтва праз рэалізацыю дзяржаўных праграмаў. З развіццём сельскіх раёнаў краіны звязваецца пытанне захавання нацыянальнай мовы і культуры. Слука прызнае працэс запаволення развіцця нацыянальнай культуры, але лічыць гэта вынікам не дзяржаўнай палітыкі, а скарачэння сельскага насельніцтва ў Беларусі.

Захаванне беларускай мовы і нацыянальных традыцыяў, на думку аўтара, шмат у чым залежыць ад развіцця малых гарадоў.

Значная роля ў працэсе фармавання новай культурнай прасторы надаецца адукацыі. Адзначаючы, што беларуская сістэма адукацыі развіваецца згодна з найноўшымі сусветнымі тэндэнцыямі, Слука кажа пра існаванне пераемнасці з савецкаю школаю. У кнізе ўказваецца на шэраг памылак нацыянальнага адраджэння пачатку 1990-х і паспешлівасць беларусізацыі ў сістэме адукацыі. У выніку робіцца выснова, што адмова ад беларусізацыі – гэта пераход да новага «*планамернага засваення сучаснай рэчаіснасці з улікам нацыянальнай культуры беларускага народу і неабходнасці яе захавання і развіцця ў XXI ст.*» (с. 64). Пры гэтым звяртаецца ўвага і на станоўчыя моманты палітыкі беларусізацыі – паляпшэнне стаўлення да беларускай мовы і культуры.

Слука адзначае поўнае забеспячэнне адукацыйнага працэсу ў краіне, кажа пра існаванне адпаведных кадраў і падручнікаў, якія адбіраюцца на канкурэнтнай аснове. Крытыку зменаў, што адбыліся за апошнія гады ў курсах па беларускай літаратуры і гісторыі Беларусі, аўтар называе «*наездам рэстаўратараў*» (с. 65). Альтэрнатыўная, нацыянальная візія гісторыі падвяргаецца крытыцы за «сумнеўныя» сцвярджэнні ды ацэнку гістарычных фактаў і падзеяў, адмаўленне ўсяго савецкага, агучванне «*абразлівых фактаў для суседніх народаў*», рэабілітацыю «калабарантаў» у часы Другой сусветнай вайны і г. д. У зменах, якія адбыліся ў курсе па беларускай літаратуры на пачатку 1990-х, Слука бачыць «*спробы падмены сапраўдных талентаў літаратуры і мастацтва пасрэднымі і нават сумнеўнымі асобамі*» (с. 67).

Даючы сваю ацэнку беларускай сістэме адукацыі, ён падкрэслівае неабходнасць яе рэфармавання. Аўтар адзначае непаспяховасць спробы ўвядзення дванаццацігадовай школы, палавінчатасць пераходу на трохузроўневую сістэму адукацыі (бакалаўр-магістр-доктар). Значную праблему аўтар бачыць у міграцыі навукоўцаў, якую называе рабаваннем кадраў. Для выхаду з гэтай сітуацыі прапаноўваецца шэраг крокаў, сярод якіх перавод школы на дванаццацігадовую адукацыю і нацыяналізацыя праграмы адукацыі праз развіццё і вывучэнне беларускай мовы, гісторыі ды літаратуры.

Кажучы пра неабходнасць выхавання беларусаў-патрыётаў, Слука раптам пераходзіць на «нацыянальныя» пазіцыі, што зусім не характэрна для афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіі. Аўтар падкрэслівае значнасць беларускай мовы, называючы яе адметнаю рысаю народу, інструментам захавання і развіцця беларускай нацыі, а таксама кажа пра неабходнасць распрацаваць грунтоўную канцэпцыю нацыянальнай гісторыі. Вытокі дзяржаўнасці аўтар бачыць у Полацкім княстве – «*нашай старажытнай культурнай жамчужыне*» (с. 78), традыцыі і дасягненні якога перадвызначылі існаванне «*беларускага Вялікага княства*» (с. 78). Вялікае Княства Літоўскае называецца беларускаю феадальнаю дзяржаваю,

згадваецца «залаты век» нацыянальнай беларускай культуры і навукі.

Значная роля ў фармаванні новай культурнай прасторы надаецца развіццю гуманітарнай веды. Прычым падкрэсліваецца, што ў гэтай сферы ёсць шмат праблемаў. Слука звяртае ўвагу на крытычны недахоп настаўнікаў вышэйшай школы, манаграфічных даследаванняў, адсутнасць публікацыяў наконт вострых грамадска-палітычных тэмаў, адсутнасць дыялогу дзяржавы з «*грамадазнаўцамі*» (с. 90). Хвалюе аўтара і малая рэпрэзентацыя гуманітарыяў на ўзроўні Нацыянальнай акадэміі навук. Адзначаецца неабходнасць рэфармаваць НАН, стварыць новую навучальную і навуковую літаратуру, якая адпавядала б найноўшым патрабаванням; аўтар падкрэслівае важнасць увядзення новых метадаў выкладання гуманітарных дысцыплінаў.

**Трэці раздзел** кнігі прысвечаны нацыянальнай ідэі ды разгляду асноўных яе складнікаў. У гэтай частцы працы Слука выступае з выразных «нацыянальных» пазіцыяў, кажа пра існаванне аб'ектыўных прычынаў выдзялення беларускага этнасу, адзначае тысячагадовы шлях фармавання беларускай нацыі, які прывёў да ідэі самастойнай дзяржавы. Гаворачы пра неспрыяльныя гістарычныя ўмовы і адсутнасць магчымасці канчаткова сфармаваць нацыянальную ідэю да атрымання незалежнасці, Слука падкрэслівае, што толькі ў 1991 годзе «*беларускі народ дачакаўся свабоды, да якой імкнуўся цэлае тысячагоддзе*» (с. 97). Пры гэтым свабода наступіла нягледзячы на экспансіяністычную палітыку насаджэння ліберальных каштоўнасцяў з боку Захаду і гвалтоўную ізаляцыю Беларусі. Гістарычныя этапы станаўлення нацыянальнай свабоды аўтар бачыць у існаванні Полацкага княства, беларускага ВКЛ і БССР.

Палітычную свабоду Слука называе асноваю фармавання грамадзянскай супольнасці. Аўтар упэўнены: патрэбны час, каб усе структуры ў дзяржаве пачалі прытрымлівацца яе прынцыпаў. Паспяховае функцыянаванне дзяржавы і кансалідацыя грамадства магчымыя, паводле прафесара БДУ, толькі пры рэалізацыі палітычнай свабоды. Яна выступае моцным фактарам, які павінен стымуляваць свабоду эканамічную. Закранаючы пытанне развіцця эканамічнай свабоды ў Беларусі, аўтар звяртае ўвагу на існаванне аб'ектыўных фактараў, якія стрымліваюць яе станаўленне. Эканамічныя цяжкасці звязваюцца з абмежаванаю колькасцю рэсурсаў. Развязаць эканамічныя праблемы без навукова распрацаванай дзяржаўнай ідэалогіі, на думку аўтара, немагчыма.

Гаворачы пра існаванне ўласнай традыцыі свабоды, Слука звяртаецца да Статута 1529 года. У разуменні аўтара існаванне «*старабеларускай найбуйнейшай у Еўропе феадальнай дзяржавы*» (с. 107) – гэта яскравы прыклад моцнай дзяржаўнай і прававой традыцыяў беларускай нацыі. Заходніх і ўсходніх гісторыкаў аўтар абвінавачвае ў прыпісванні сабе ўплываў на развіццё беларускага народу і прыводзіць у прыклад беларускі Рэнесанс у XVI стагоддзі: «*у велізарнай беларускай краіне бурна развіваліся эканоміка, міжнародныя адносіны,*

*нацыянальная культура, навука і мастацтва*» (с. 108). Адзначаецца, што гуманістычныя ідэі і дэмакратычныя прынцыпы ў дзяржаўным будаўніцтве Вялікага Княства Літоўскага значна апераджалі краіны Еўропы і Маскоўскае княства.

Слука закранае пытанне развіцця свабоды асобы ў краіне і робіць пры гэтым даволі смелыя заявы. Гаворачы пра дэкларатыўны характар свабоды ў БССР, аўтар адзначае антыдэмакратычны характар савецкай улады, які і цяпер уплывае на беларускі народ. У якасці прыкладу абмежавання асобы прыводзяцца выбары, дзе, як адзначае сам аўтар, выкарыстоўваецца адміністрацыйны рэсурс, адбываюцца адкрытыя маніпуляцыі ды прымус, прысутнічаюць «*рекомендации-указания*», за каго аддаць свае галасы. Гэта падаўляе свабоду асобы і не дае грамадзянам магчымасці выказваць сваю волю. Слука прыходзіць да высновы, што палітычная, эканамічная і асабістая свабоды развіваюцца ў Беларусі ў супярэчлівай атмасферы.

Адным з асноўных складнікаў нацыянальнай ідэі называецца ідэя незалежнасці – «*стрыжань і жыццёвая энергія Нацыянальнай ідэі*» (с. 112). Толькі незалежнасць, на думку аўтара, можа забяспечыць выбар і ажыццяўленне інтарэсаў ды праграмаў развіцця грамадства. Гаворачы пра цяжкасць атрымання і захавання незалежнасці Беларусі, Слука заклікае да яе ўзмацнення, за што мусіць змагацца ўсё грамадства, не спадзеючыся на іншых. Як адмоўны прыклад аўтар прыводзіць Беларускую Народную Рэспубліку, называючы нямецкія і польскія абяцанні падтрымкі еўрапейскім гандляваннем за беларускія тэрыторыі. На думку аўтара, толькі бальшавікі змаглі абвясціць незалежнасць Беларусі пад сваім кантролем, што прывяло да сапраўднай незалежнасці напрыканцы XX стагоддзя.

Слука звяртаецца да вострай грамадскай дыскусіі пра незалежнасць краіны ў 1996 годзе, кажа пра існаванне рэальнай пагрозы страты суверэнітэту. Аўтар адзначае, што першапачатковыя шляхі стварэння Саюза Беларусі і Расіі не адпавядалі двухбаковым інтарэсам і не забяспечвалі палітыка-эканамічнага развіцця. Гэта прывяло да пошуку новага шляху аб'яднання. Наяўнасць розных падыходаў краінаў да развязання праблемаў у палітычнай і эканамічнай сферах аўтар звязвае са складаным сацыяльна-эканамічным становішчам Беларусі і моцным ціскам на краіну з боку Захаду. Такая сітуацыя робіць неабходным распрацоўванне на аснове нацыянальнай ідэі ўстойлівай праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця праз фармаванне ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці «*як інавацыйнай сістэмы кіравання грамадствам і дзяржаваю*» (с. 123).

Трэцім вызначальным складнікам нацыянальнай ідэі Слука называе ідэю сацыяльнай справядлівасці. Справядлівасць выступае ідэалам і канчатковаю мэтаю нацыянальнай ідэі. Звяртаючы ўвагу на складанасць паняцця, аўтар спрабуе даць сваё вызначэнне, згодна з якім сацыяльная справядлівасць – гэта мера гуманізму і найвышэйшы ўзровень дэмакратыі. Слука кажа пра неабходнасць глыбокага разумення нацыянальнай ідэі будучымі пакаленнямі, адзначае

важнасць дзяржаўнай беларускай ідэалогіі для адраджэння Беларусі ў XXI стагоддзі, прыводзіць у прыклад дасягненні продкаў: «*вялікую Полацкую зямлю або самую буйную ў Еўропе беларускую дзяржаву Вялікае княства*» (с. 129).

Нацыянальнай ідэі надаецца значная роля ў будучым развіцці краіны. «*Нацыянальная ідэя – гэта магістральны накірунак руху беларускага народу ў новую тысячагадовую гісторыю*» (с. 133). Рэалізацыя нацыянальнай ідэі, на думку аўтара, дазволіць дасягнуць устойлівай эфектыўнай эканомікі і высокай інтэлектуальнай культуры, дзе значная роля будзе надавацца сацыяльнай справядлівасці. Слука адзначае, што ўзровень жыцця трэба звязваць не толькі з матэрыяльным забеспячэннем, але і з забеспячэннем свабоды асобы. Гаворачы аб правільных кроках дзяржавы для павышэння матэрыяльнага дабрабыту, аўтар звяртае ўвагу на наяўнасць шматлікіх праблемаў у ахове здароўя, адукацыі, сацыяльным і побытавым абслугоўванні, адносінах паміж кіраўнікамі і грамадзянамі, а таксама праблемы з дэмакратыяй у дзяржаве.

Ён сцвярджае, што ў краіне адсутнічае сярэдні кіроўны клас з інавацыйным мысленнем. Даволі востра аўтар выказваецца і пра беларускі парламент, называючы яго дзейнасць «*глухім парламенцкім сядзеннем*» (с. 142), і крытыкуе яго за адсутнасць ініцыятываў, няздольнасць вырашаць праблемы ў краіне, што прыводзіць да зніжэння значнасці самога інстытута. Сваю порцыю крытыкі атрымалі і мясцовыя ўлады – за нізкі ўзровень кіравання: «*мясцовая вертыкаль улады "прытармазілася" ў сваёй дзейнасці дзесьці на ўзроўні 90-х гг.*» (с. 143).

**Чацвёрты раздзел** кнігі прысвечаны ролі камунікацыі ды СМІ. Слука кажа пра неабходнасць сфармаваць нацыянальную інфармацыйную прастору. Ён адзначае неабходнасць ідэалагічнай скіраванасці нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі, а асноваю фармавання нацыянальнай інфармацыйнай прасторы называе нацыянальную ідэю – «*усведамленне беларускім народам свайго гістарычна-аб'ектыўнага шляху да свабоды і справядлівасці*» (с. 158). Тры кампаненты нацыянальнай ідэі (свабода, незалежнасць і справядлівасць) – гэта ідэал сучаснага беларускага грамадства, які павінен зрабіцца ідэалагічным кірункам дзейнасці СМІ ў Беларусі.

На думку аўтара, ідэалогія беларускай дзяржаўнасці ўгрунтаваная ў гісторыі краіны, яе культуры і каштоўнасцях народу; ідэалогія – гэта стратэгія развіцця. Насычаная ідэалогіяй беларускай дзяржаўнасці інфармацыйная прастора – гэта моцны інстытут фармавання новага грамадства. Слука адзначае развітасць сістэмы СМІ ў Беларусі, кажучы, што гэта галоўная рухальная сіла ў беларускай ідэалагічнай сістэме. Новы этап ідэалагічнага станаўлення СМІ аўтар выводзіць з 1996 года, калі пачынаецца павелічэнне іх уплыву на аўдыторыю. Дзякуючы медыя адбываецца замацаванне ў масавай свядомасці ідэалагічнай формулы: «*ідэалогія беларускай дзяржаўнасці – гэта ідэалогія грамадства, у*

*якім дзяржава выступае механізмам выканання яго інтарэсаў»* (с. 176).

Закранаючы тэму апазіцыйных СМІ, Слука адзначае іх дэструктыўны характар і негатыўны ўплыў на грамадства, кажа пра інфармацыйную вайну супраць Беларусі ды экспансію ў інфармацыйную прастору краіны. Аўтар вылучае некалькі кірункаў экспансіі: першы – праз навукова-даследчыя цэнтры, выданні, грамадскія аб'яднанні і г. д., якія ствараюцца і фінансуюцца буйнымі дзяржавамі (ЗША і інш.); другі – праз місіянерскую дзейнасць – «*від пранікнення і ўкаранення агентаў уплыву*» (с. 180); трэці – маральна-палітычная камунікацыйная экспансія праз прапаганду СМІ суседніх краінаў. На ўсе гэтыя дзеянні патрэбны адпаведны адказ.

Сусветную супольнасць Слука падзяляе на два лагеры: мілітарысты (ЗША ды інш.) і міралюбівыя краіны (краіны БРІК[1] ды інш.). Аўтар адзначае шматлікасць інфармацыйных войнаў паміж гэтымі лагерамі, што ёсць прычынаю крызісу даверу да СМІ. Другая прычына крызісу даверу – «*дэзінфармацыйная рэанімацыя ліберальнай ідэалогіі*» (с. 185). Слука крытыкуе сучасныя СМІ за перанасычанасць «заходнім», «*заказное інфармацыйнае сутэнёрства*» (с. 186), эрозію маральных устояў і г. д.

У апошнім, **пятым, раздзеле** кнігі аўтар спрабуе разгледзець феномен грамадзянскай супольнасці і звяртае ўвагу на існаванне ў Беларусі ўласнай традыцыі ў гэтай праблематыцы: «*беларуская філасофская школа шмат у чым апярэдзіла еўрапейскую тэорыю развіцця грамадзянскай супольнасці ў эпоху Асветніцтва*» (с. 189).

У фармаванні грамадзянскай супольнасці ў Беларусі Слука бачыць шлях да ўзмацнення «маладой дэмакратыі» ў краіне, адзначае адсутнасць аб'ектыўных прычынаў для хуткага з'яўлення грамадзянскай супольнасці ды звяртае ўвагу на неабходнасць фармавання сярэдняга класу, які ён называе «*самым каштоўным капіталам грамадства*» (с. 198). На думку аўтара, беларуская дзяржава вельмі павольна рухаецца на шляху фармавання грамадзянскай супольнасці і сярэдняга класу. Афіцыйныя сацыялагічныя даследаванні адчувальна скажаюць рэальную сітуацыю з узроўнем жыцця ў Беларусі, паказваючы наяўнасць у краіне сярэдняга класу.

Адным з важных сегментаў грамадзянскай супольнасці Слука лічыць палітычную актыўнасць насельніцтва, якая павінна даваць магчымасць карэктаваць сістэму кіравання ў дзяржаве. Але такое карэгаванне не мусіць адбывацца рэвалюцыйным шляхам.

Кажучы пра неабходнасць канцэнтрацыі інтэлектуальных сілаў і сродкаў у дзяржаве, Слука адзначае вялікі недахоп кваліфікаваных кадраў. Фармаванне грамадзянскай супольнасці мае паспрыяць выйсцю з гэтай сітуацыі праз вылучэнне з гэтага асяродку найбольш таленавітых асобаў, якіх мае рэкрутаваць дзяржава. Аўтар робіць спробу прааналізаваць

[1] Бразілія, Расія, Індыя, Кітай.

палітычны працэс у сучаснай беларускай дзяржаўнасці. Слука ўпэўнены ў правільнасці палітычнага курсу краіны.

Кажучы пра заканамернасць развіцця беларускай нацыі ды дзяржавы, аўтар звяртаецца да перыяду існавання савецкай улады, якая «*аказала вызначальны ўплыў на станаўленне дэмакратычнай свядомасці грамадзянаў і развіццё прынцыпаў нацыянальнай дзяржаўнасці*» (с. 206). Такім чынам, толькі дзякуючы бальшавікам Беларусь змагла атрымаць сваю дзяржаўнасць. «*Для беларускага народу стварэнне БССР – з'ява вялікага гістарычнага значэння, параўнальная з узнікненнем Полацкага княства – першаасновы беларускай дзяржаўнасці ды існаваннем Вялікага княства Літоўскага – найбуйнейшай у Еўропе цывілізаванай феадальнай беларускай дзяржавы*» (с. 209). Слука адзначае дэмакратычнасць савецкага палітычнага працэсу, станоўча ацэньвае ролю савецкай улады ў фармаванні і развіцці дзяржавы. Ён упэўнены, што гэта паспрыяла росквіту нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народу.

Разам са станоўчымі момантамі існавання савецкай улады Слука звяртае ўвагу і на значныя пралікі, якія прывялі да паразы савецкага ладу. Сярод іх называюцца партыйна-савецкая дыктатура, масавыя рэпрэсіі супраць насельніцтва і барацьба супраць рэлігіі. Нягледзячы на гэта, на думку аўтара, палітычны працэс у БССР быў накіраваны на эфектыўнае сацыяльна-эканамічнае развіццё, дзякуючы чаму ўтварылася новае грамадства. Адзначаецца, што ў савецкі час сфармаваліся найвышэйшыя нацыянальныя каштоўнасці беларускага народу, якія і атрымалі сваё аб'ектыўнае развіццё пасля абвяшчэння незалежнасці ў 1991 годзе. Гэтыя каштоўнасці і цяпер вызначаюць развіццё беларускай нацыі.

У **заключэнні** аўтар адзначае супярэчлівасць і непаслядоўнасць ідэалагічных працэсаў у Беларусі ды звязвае такую сітуацыю з аб'ектыўнымі ўмовамі развіцця. Таксама ён звяртае ўвагу на састарэласць сацыялістычных грамадскіх адносінаў, кажа пра іх глыбокія карані ў масавай свядомасці. Для фармавання новай ідэалогіі ды грамадскіх адносінаў неабходны час. Слука кажа пра існаванне небяспекі для чалавецтва, бачыць у класавай барацьбе імавернасць грамадзянскіх войнаў у шматлікіх еўрапейскіх краінах. Усё гэта называецца адваротным бокам ідэалогіі глабалізацыі ды пацвярджае, на думку аўтара, неабходнасць фармаваць стваральную ідэалогію ў кожнай краіне з апораю на нацыянальную культуру. Беларусь тут выступае прыкладам, бо мае сваю нацыянальную ідэю – стратэгічны шлях, вызначаны беларускай ідэалогіяй, «*эфектыўнаю праграмаю сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь*» (с. 216).

Працу Слукі, безумоўна, нельга назваць навуковым выданнем. Нельга назваць гэтую працу і шараговым падручнікам па дзяржаўнай ідэалогіі. Кніга адлюстроўвае аўтарскае бачанне развіцця краіны і ролі ў гэтым працэсе ідэалогіі. Тэкст пакідае супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, аўтар спрабуе актуалізаваць

шматлікія праблемныя пытанні. Пры гэтым дазваляе сабе даволі крытычныя і смелыя выказванні ў бок цяперашняга стану рэчаў. З іншага боку, Слука ідэалізуе беларускую дзяржаўную ідэалогію, бачыць у ёй развязанне ўсіх праблемаў і дазваляе сабе кпіны ў бок ідэалагічных апанентаў. Трэба адзначыць інфармацыйную грувасткасць выдання. Чытаючы кнігу, часам цяжка знайсці адзіную логіку наратыву.

Паўстае пачуццё, што аўтар свядома імкнуўся прадэманстраваць сваю «абазнанасць» па розных праблемах. Але ў выніку атрымалася напісаць пра ўсё і часам ні пра што. Кніга вельмі нагружаная ідэалагічнымі штампамі. Эмацыйнасць у выказваннях і ацэнках не надае перавагаў, а своеасаблівы стыль падачы інфармацыі ды месцамі залішняя пафаснасць не дае падставаў казаць пра значную літаратурную якасць тэксту.